


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 7 (393) — Нядзеля, 16 лютага 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Жахлівы білянс русыфікацыі

Апошнім часам амаль у кажным нумары «Бацькаўшчыны» знаходзім перадрукі зь беларускай савецкай прэсы, галоўным чынам з газэты «Літаратура і Мастацтва» цэлых артыкулаў або іхных частак з кароткімі рэдакцыйнымі камэнтарамі й заўвагамі аб тым, якіх вялізарных разьмераў дасягнула русыфікацыя ў БССР. З гэтых артыкулаў і матарыялаў мы пераконваемся, што сяньня няма аніводнай галіны беларускага культурнага й грамадзкага жыцьця, дзе-б русыфікацыя не запусьціла глыбокіх карэньняў. Але найбольш нагляднай і шалёнай зьяўляецца яна ў галіне мовы.

Русыфікацыя ў галіне мовы праводзіцца плянава й сыстэматычна ў двух асноўных кірунках: а) у кірунку бесьперапыннай русыфікацыі самой беларускай літаратурнай мовы, якая афіцыяльна дазволеная ў БССР і ўжываецца часткава галоўным чынам у друку; б) у кірунку сыстэматычнага выціскаваньня з ужываньня гэтай зрусыфікаванай беларускай мовы й замены яе чыстай расейскай мовай.

Аб першым спосабе русыфікацыі шмат гаварыць ня прыходзіцца, бо гэтае зьявішча нам даўно добра ведамае. Яно бярэ свой пачатак ад г. зв. «рэформы» беларускай граматыкі й правапісу, праведзенай у жніўні 1933 году, паводля якой урадавым дэкрэтам было выкінута зь беларускай мовы звыш дваццаці тыпова беларускіх фанэтычных і марфалягічных асаблівасьцяў, а на іхнае месца былі ўведзеныя чыста расейскія асаблівасьці, чужыя й няведамыя беларускай мове. Але гэта быў толькі пачатак.

Далей, пачынаючы ад 1933 году й аж да нашых дзён, адбываецца ўжо нядэкрэтаваны, але таксама абавязваючы працэс «набліжаньня» беларускае мовы да мовы «старэйшага брата».

Гэтае «набліжаньне» да расейшчыны афіцыяльна й адкрыта ўважаецца там, як прагрэсаваньне, узбагачваньне й разьвіцьцё беларускае літаратурнае мовы. Прыкладам, у прадмове да Руска-беларускага слоўніка», выдадзенага Акадэміяй Навук БССР у 1953 годзе, зь няпрыхованым цынізмам гаворыцца, што беларуская мова **«выпрацавала свае літаратурныя нормы, значна папоўніла лексычны запас за кошт словаў роднай ёй расейскай мовы».**

Гэтае «ўзбагачэньне» слоўнага запасу беларускай літаратурнай мовы за кошт словаў «роднай» ёй расейскай мовы адбываецца такім спосабам, што ўсе чыста беларускія словы, якіх няма (ад таго самага кораня) ў расейскай мове, бясьсьледна выкідаюцца, як дыялектызмы, архаізмы або штучныя нэалягізмы, а на іхнае месца ўводзяцца словы чыста расейскія, раней няведамыя ў беларускай мове. Гэтак у сяньняшняй літаратурнай мове БССР аж кішыць ад такіх чыста расейскіх словаў, як **папрок, папракаць, таржаство, лікаваць, страсьць, састаяць, урок, рабяты, падвяргаць, сьмірэньніца, прыўрочыць, ісьціна, рэўнасьць** і цэлае мноства іншых. Падобнае зьявішча адбываецца ня толькі ў галіне лексыкі, але і ў галіне марфалёгіі й навет у сінтаксісе. Дайшло да таго, што сучасная беларуская літаратурная мова ў БССР зьяўляецца ўжо ня беларускай мовай, але штучна створаным беларуска-расейскім жаргонам. Гэта адзін спосаб русыфікацыі беларускай мовы.

Другі спосаб куды прасьцейшы: гэта паступовае выціскаваньне з ужываньня навет зрусыфікаванай мовы й замены яе «роднай» ёй мовай, як сказана нахабна ў прадмове да ўспомненага слоўніка, г. зн. мовай нашага «старэйшага брата».

Як даведваемся з успомненых выказваньняў на бачынах «Літаратуры і Мастацтва», у БССР створаныя, — і пэўне-ж, ня прыпадкова, а із поўнай сьведамасьцяй мэты — такія спэцыфічныя ўмовы, якія робяць неабходным у публічным жыцьці пераход зь беларускай на расейскую мову. Прывядзём прыклады толькі із школьнае палітыкі ў БССР.

Перш за ўсё ў беларускіх вышэйшых навучальных установах, як Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску і цэлы рад спэцыяльных інстытутаў у розных гарадох БССР, выкладаньне вядзецца вылучна ў расейскай мове, за выняткам самой беларускай мовы й літаратуры, а студэнты мусяць паслугоўвацца амаль вылучна расейскімі падручнікамі й расейскай тэрміналёгіяй.

Гэтак адзін з настаўнікаў на бачынах «Літаратуры і Мастацтва» сьцьвярджае проста жахлівы факт: **«у нашых вышэйшых навучальных установах цяжка пачуць роднае слова».** Адзін студэнт удакладняе: **«У Менску зараз працуюць 58 сярэдніх школ. Зь іх толькі дзесяць — беларускія».** Іншы студэнт прыводзіць наступныя факты: **«Добрых 90 працэнтаў мастацкай і вучэбнай літаратуры, якую трэба прачытаць студэнту за 5 год, выдадзеная на расейскай мове».**

Многія студэнты і настаўнікі сьцьвярджаюць, што яны падчас навучаньня ў вышэйшых навучальных установах Беларусі ня толькі нічога не навучыліся ў галіне беларускае мовы, але й забыліся тое, што раней ведалі. Дык калі такі студэнт пасьля заканчэньня вышэйшых студыяў назначаецца настаўнікам пачаткавай або сярэдняй школы, ён у сілу абставінаў праводзіць навучаньне ў расейскай мове.

Вышэй прыведзеныя прыклады ўзятыя із школьнага жыцьця, дзе, здавалася-б, справа зь беларускай мовай мусіла-б стаяць найлепей. Таму нічога дзіўнага, што ў іншых галінах жыцьця справа яшчэ горшая. Із недахопу месца ня будзем тут прыводзіць фактаў, бо нашыя чытачы й так іх ведаюць з друкаваных у «Бацькаўшчыне» матарыялаў.

Такое палажэньне не магло ня выклікаць адпаведнай рэакцыі сярод некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі ў БССР. Праўда, абарона беларускай мовы ня ёсьць у БССР справай вельмі бясьпечнай. За гэты «праступак» яшчэ ня так даўно людзі былі абвінавачваныя ў «буржуазным нацыяналізьме». Сяньня-ж у пэрыяд, калі яшчэ ня зусім закончыўся пэрыяд «адлігі», знайшліся адважныя, якія з поўнай мужнасьцяй паднялі змаганьне за правы беларускае мовы.

У вабароне культуры беларускае мовы й спыненьня ейнае русыфікацыі першым падняў станоўчы голас нядаўна рэгабілітаваны пісьменьнік Янка Скрыган у артыкуле «Думкі аб мове», зьмешчаным у «Літаратуры і Мастацтве» за 20 лютага 1957 г. Ён шырака паставіў пытаньне аб патрэбе ачышчэньня беларускай мовы ад накінутых ёй русыцызмаў, хаця із зразумелых прычынаў не назваў іх па імені, а толькі аргумэнтаваў, што **«гэтак народ не гаворыць»** або што **«мы адрываемся ад народнага творчага асяродзьдзя»** і пад.

Думкі Янкі Скрыгана хутка былі падхопленыя й дапоўненыя цэлым радам іншых аўтараў, найчасьцей літаратурнымі крытыкамі й публіцыстымі. На бачынах «Літаратуры і Мастацтва» разгарнулася шырокая дыскусія на гэтую тэму, якая зводзілася да аднаго: неабходнасьці дэрусыфікацыі беларускае мовы, да зблізкэньня да беларускай народнай мовы замест да мовы «старэйшага брата», да павышэньня культуры роднае мовы.

Раўналежна з гэтым распачалася кампанія супраць замены беларускай мовы ў школьніцтве й іншых дзялянках культурнага й грамадзкага жыцьця расейскай мовай. Гэтую кампанію на ўсю шырыню распачаў беларускі паэта, таксама рэгабілітаваны, хоць і пры іншых абставінах, Максім Лужанін, выступаючы на сходзе актыву работнікаў літаратуры й мастацтва БССР 2 лістапада 1957 году ў Менску. Сьцьвердзіўшы, што беларуская мова рознымі спосабамі заменьваецца расейскай, ён паставіў дамаганьне: **«Хочацца, каб беларуская мова чулася ня толькі ў творчых арганізацыях,**

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Імпрэзы й сьвяткаваньні

У першых сёлетніх трох-чатырох нумарох «Бацькаўшчыны» на апошняй бачынцы ў хроніцы беларускага жыцьця на эміграцыі мы бачылі вылучна амаль карэспандэнцыі з паасобных беларускіх асяродкаў аб супольным сьвяткаваньні Калядаў, Новага Году, ці ладжаньні ялінкі для дзяцей з удзелам старэйшага грамадзтва.

На першы пагляд можна было-б падумаць, што ўсё гэта такія дробныя лякальныя імпрэзы, што залічаць іх да беларускага грамадзкага жыцьця на эміграцыі навет ня выпадае.

Але гэта толькі на першы пагляд. Бо ўжо апрача чыста маральнага аспэкту такіх **супольных** сьвяткаваньняў, яны маюць глыбокі грамадзкі сэнс на які не заўсёды навет зьвяртаецца належную ўвагу.

Трэба яшчэ раз падчыркнуць, што ў некаторых нашых асяродках выраблілася рутына (аб чым ужо некаторыя пісалі ў «Бацькаўшчыне») урачыста адзначаць толькі дзьве нашыя даты: Сакавіковага Акту й Слуцкага паўстаньня. І гэта адзіныя нагоды, калі нашыя суродзічы дадзенага асяродка й бліжэйшых ваколіцаў могуць сабрацца разам, падзяліцца думкамі і ўражаньнямі, адпачыць духова, задзіночыўшыся ў вадну беларускую сям'ю.

Праўда, сюды яшчэ даходзяць традыцыйныя ўжо «чарговыя гадавыя зьезды» розных арганізацыяў. Але на іх, зразумела, не заўсёды чалавек можа мець гэты духовы адпачынак...

Некаторыя ўважаюць, што калі ўжо ладзіць якуюсь імпрэзу, дык толькі так, каб ёй рабіць і прапаганду беларускай справы навонкі, гэта значыць, каб на ёй было як найбольш рэпрэзэнтатыўных прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, каб аб ёй пісала прэса й г. д. Бязумоўна, усё гэта патрэбнае й неабходнае, ды асабліва ў буйных асяродках, дзе запраўды можна добра зарэпрэзэнтаваць беларускую культуру перад чужынцамі ды бліжэй зацікавіць іх беларускай справай. Але такія шырока ладжаныя імпрэзы патрабуюць, зразумела, вялізарнае падрыхтоўкі ды значных матар'яльных сродкаў. Таму нашыя арганізацыі найчасьцей і абмяжоўваюцца да аднае-дзьвёх такіх імпрэзаў у год, і то не заўсёды і ўсюды.

Асяродкі-ж колькасна меншыя, або й зусім малыя, з гэтых прычынаў нярэдка й зусім нічога ня ладзяць. Такім чынам, практычна ў такіх асяродках ніякага грамадзкага жыцьця няма, а зь бегам часу й цяга да яго занікае. А потым дзівімся, што людзі нашыя неграмадзкія, што асымілююцца й г. д.

Кіраўніцтвы буйнейшых асяродкаў ды наагул актыў іх мусілі-б у плянаваньні сваёй грамадзкай працы ўлічваць ня толькі мамэнт рэпрэзэнтаваньня беларускага імя навонкі, але й ў такой-жа самай меры й мамэнт арганізацыйны і ўзгадаваўчы сярод сяброў дадзенага асяродку ці арганізацыі ўнутры. Скажам, Сакавіковае сьвята, некаторыя юбілеі найвыдатнейшых нашых пісьменьнікаў, угодкі Слуцкага паўстаньня можна й трэба ладзіць шырэй з запрошаньнем як найбольшае колькасьці прадстаўнікоў небеларускага грамадзтва, інакш кажучы — мець якраз на ўвазе вонкава-рэпрэзэнтацыйны мамэнт. Але ў такіх асяродках ёсьць таксама магчымасьць і неабходнасьць ладжаньня больш скромных, нутранога характару імпрэзаў.

Супольная сустрэча Новага Году, супольнае сьвяткаваньне Калядаў, ладжаньне ялінкі для дзяцей з удзелам і старэйшых, калядаваньне калядоўшчыкаў, супольнае сьвяткаваньне Вялікадня й валачобнікі, Купальле, некаторыя юбілеі — агульнабеларускія, або дадзенае арганізацыі ці асяродку, — вось яны тыя нагоды, пры якіх, не патрабуючы вялікае падрыхтоўкі ды без затраты маматар'яльных сяродкаў, можна наладжваць культурныя сустрэчы, якія ўзгадоўваюць малодшых, даюць духовы адпачынак старэйшым ды ўсіх разам задзіночваюць у вадну беларускую сям'ю. Ды, зрэшты, падобныя імпрэзы зусім не патрабуюць быць зьвязаныя зь якімісь датамі ці юбілеямі. А, прыкладам, сяброўскія вечары з самадзейнымі мастацкімі выступамі, лятарэямі, танцамі; літаратурныя вечары, рэфэраты з дыскусіямі; ці, летам, як гэта штораз часьцей практыкуюць нашыя асяродкі ў Канадзе й ЗША, супольныя экскурсіі й маёўкі «пікнікі») — ці-ж гэта не становіць тых неабходных момантаў у культурным жыцьці нашых арганізацыяў? Гэтым і самыя арганізацыі ўзмацняюцца й цэмэнтуюцца ды робяцца запраўды жыцьцяздольнымі й рэальнымі, а ня толькі папяровымі.

Ясна у ўмовах эміграцыі бываюць выпадкі, што ў дадзенай мясцовасьці няма зарганізаванага аддзелу ніякай грамадзкае арганізацыі, бо там жыве ўсяго пару беларускіх сем'яў ды некалькі чалавек у ваколіцы. Ды, зрэшты ,бываюць і аддзелы, якія, аднак, па колькасьці сяброў так малыя, што там цяжка думаць аб нейкай арганізаванай культурнай працы. І вось тут тады трэба перадусім рабіць націск на асабістыя кантакты. Хаця-б раз у месяц пры нейкай нагодзе зыйсьціся ці зьехацца **ўсім разам,** пагутарыць, пасьпяваць, падзяліцца ўражаньнямі, парадзіцца. Пры такіх нагодах чалавек мімавольна ўспамінае бацькаўшчыну ды як-бы нанова адраджаецца ў ім прысланая эмігранцкай будзёншчынай і клопатамі беларускасьць.

І вось вяртаючыся да ўспомненых напачатку сёлетніх розных супольных сьвяткаваньняў, трэба з задаваленьнем адцеміць, што яны штораз больш уваходзяць у нашую эмігранцкую традыцыю, становяцца сталым зьявішчам амаль кажнага нашага больш-менш арганізаванага асяродку. Застаецца толькі пажадаць, каб такія супольныя сьвяткаваньні ды й іншыя нутранога характару імпрэзы ладзіліся як найчасьцей, што, бязумоўна, у вялікай меры спрычыніцца да падтрымоўваньня беларускага духу ды будзе у пэўнай меры гамаваць паступовы працэс асыміляцыі некаторых нашых суродзічаў.

**А. Г.**

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Бамбардаваньне французкай авіяцыяй туніскай вёскі Сакіет спрычыніла вялізарныя шкоды ня толькі Францыі, але і ўсяму вольнаму сьвету. Хаця ня ведама, хто даў загад гэтай фатальнай апэрацыі, францускі ўрад, ці мясцовае камандваньне ў Альжыры, няма сумлеваў, што гэта была вялізарная памылка, якую нялёгка будзе направіць. У часе, калі Масква замацоўвае свае ўплывы у арабскім сьвеце і ўзбуджае ў ім варожасьць да Захаду, запраўды трэба быць ненармальным, каб даваць праціўніку новыя козыры. У выніку бальшавіцкай акцыі, колькасьць прыяцеляў Захаду ў арабскім сьвеце нябясьпечна зьменшылася. Туніскі прэзыдэнт Бургіба быў адным зь нешматлікіх прыхільнікаў Захаду і праціўнікам камунізму. Сяньня туніская дыпляматыя шукае да дыпляматычнай акцыі саюзьнікаў сярод бальшавікоў. І знойдзе, бо Масква вельмі-ж прыязна адносіцца да ўсіх вызвольных рухаў, калі яны дзеюць на шкоду вольнага сьвету. Масква ўтапіла ў крыві нямецкае паўстаньне й вугорскую рэвалюцыю, скалянізавала дзесяткі вольных народаў; ахвяры неразумнага францускага бамбардаваньня навет ня можна параўноваць з савецкімі злачынствамі ў Вугоршчыне, аднак сяньня Масква шчодра ліе кракадзілавы сьлёзы над «бедным» туніскім народам і ўсім Арабам ахвяроўвае сваю прыязную, бязінтэрэсоўную дапамогу. Лёгка ўявіць, як у Маскве цешыліся, даведаўшыся аб фатальнай акцыі францускага лятунства. А Мікіта напэўна сьцебануў тройчы за руб дваццаць пярцоўкі пад ікру.

Яшчэ раз салідарнасьць вольнага сьвету небясьпечна пахіснулася. Сяньня ўсе ўрады заходніх краінаў будуць выступаць супраць Францыі, бо інакш ня могуць паступіць. Ізноў будзем сьветкамі сумнага відовішча, калі заходнія дыпляматы будуць галасаваць з бальшавікамі супраць Францыі.

Няшмат паможа тое, што францускі ўрад выказаў згоду зьвярнуць матар'яльныя страны, спрычыненыя бамбардаваньнем. Нялёгка будзе адрабіць усе страты гэтай непрадуманай акцыі.

Ня мела баба клопатаў — купіла парасё...

*

Усьлед за сужэнствам Эгіпту з Сырыяй, якія адаптавалі Емен, Ірак з Ёрданіяй зьдзейсьнілі падобны мар'яж. Гэты апошні сымпатычнейшы тым, што ён створаны без благаславенства Масквы і не на бальшавіцкім утрыманьні. Таму Масква вітае яго даволі кіслай ухмылкай. Тут трэба сьцьвердзіць, што бедная Ёрданія зрабіла добрую партыю.

*

Фліртз Масквой не заўсёды й кажнаму выходзіць на здароўе. Найлепш аб гэтым пераканаўся інданэзыйскі прэзыдэнт Сукарно.

Антыкамуністычныя элемэнты Інданэзіі ўльтыматыўна дамагаюцца ачысьціць урад ад камуністых, бо ў выпадку нявыкананьня гэтага дамаганьня яны абяцаюць вычысьціць самога Сукарно й супалку. Масква вельмі-ж кісла ўхмыляецца да гэтай падзеі...

Зразумела...

## ПРЭЗЫДЭНТ БНР У ЗША

**1 лютага 1958 г. у Амэрыку прыбыў Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык. Прэзыдэнт Абрамчык апошні раз быў у ЗША год уперад у часе працы 8-ае Сэсіі Рады БНР. За год часу урад БНР стаў перад новымі праблемамі, разьвязаньне якіх вымагае ўдзелу Прэзыдэнта. Прэз. Абрамчык правядзе некалькі паседжаньняў зь сябрамі Лігі Вызваленьня Народаў СССР. Таксама ў сувязі з 40-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Прэзыдэнт быў запрошаны ўзяць удзел у юбілейных урачыстасьцях.**

**Прэзыдэнт М. Абрамчык плянуе прабыць у ЗША да канца сакавіка.**

# Адгукнецеся!

Бадай кажнаму знаёмае тое цікавае пачуцьцё, што авалодвае чалавекам пры наведваньні мясьцінаў, зь якімі зьвязаная частка ягонага жыцьця. Прыгадваецца featрознае — добрае й благое. Хоць праўда — найчасьцей толькі добрае. Такая ўжо людзкая натура.

Лювэн... Беларусам на эміграцыі гэтае слова гаворыць шмат. Куды-б іх жыцьцё не закінула — у вадну з эўрапэйскіх краінаў, у Амэрыку ці Аўстралію — аб Лювэне яны чулі, чыталі, дыскутавалі.

Зусім зразумела, што тым з нас маладых (хоць-бы й у вадносным значэньні гэтага слова), якім давялося правесьці ў Лювэне свае студэнцкія гады ці частку іх, гэты спакойны бэльгійскі гарадок прыгадвае шмат больш, чымся іншым. Хіба няма такога, для каго Лювэн, ягоны ўнівэрсытэт, наша студэнцкая група, былі толькі нязначным эпізодам.

Аўтару гэтых радкоў, ад часу выезду зь Лювэну даводзіцца наведваць яго сыстэматычна, два разы ў год. Пад сьвежым уражаньнем апошняга падарожжа хочацца падзяліцца з чытачамі некаторымі думкамі й меркаваньнямі.

Калі мы (9 асобаў) пераехалі ў Бэльгію ў 1950 г. з Ангельшчыны, беларуская студэнцкая група была яшчэ невялікай, у пэрыядзе росту. Аднак шлях ужо быў працярэблены, і ўнівэрсытэцкія ўлады ведалі ўжо Беларусаў з найлепшага боку. Ня будзем тут вылічаць тых, хто асабліва спрычыніўся да гэтага — аб гэтым крыху гаварылася і напэўна будзе гаварыцца больш. Адцемім толькі, што галоўным фактарам, які дазволіў нашай студэнцкай групе ў Лювэне ня толькі разрасьціся колькасна, але й разьвіць шырокую нацыянальна-грамадзкую й культурную працу, была адзінасьць мэты. Ня гледзячы на рознасьць выхаваньня, на рознасьць пройдзеных шляхоў, усе былі задзіночаныя жаданьнем здабыць асьвету й служыць свайму народу. Гэтым тлумачыцца й тая сымпатыя й пашана, якую так хутка здабыла наша студэнцкая група ў Лювэне.

Пачынаючы ад 1950 году, група пачала хутка расьці. Падчас некаторых акадэміцкіх гадоў колькасьць студэнтаў даходзіла да 40. Яшчэ хіба сьвежая ў памяці ейная дзейнасьць. На рэфэратах, прыняцьцях з нагоды нацыянальных сьвятаў прысутнічалі міністры. Беларускі Студэнцкі Ансамбль зарганізаваны незабыўным кампазытарам Міколам Равенскім, аб'езьдзіў ня толькі Бэльгію, але й рабіў выступы ў Нямеччыне, Францыі, Ангельшчыне. Наш хор пакінуў па сабе трывалы сьлед — сэрыю грамафонных дыскаў з нацыянальнымі, народнымі й рэлігійнымі песьнямі. Дыскі гэтыя ня толькі былі раскупленыя, але й скапіяваныя (незаконна!) аднэй з амэрыканскіх фірмаў. Вялася актыўная праца сярод нашых работнікаў. Зрэшты, аб гэтым і аб шмат чым іншым чытачоў даволі дакладна інфармавала наша прэса. Гаворым аб гэтым толькі таму, каб прыгадаць, што навет студыюючы, пры добрай волі ды ў добра зарганізаванай групе можна шмат чаго зрабіць.

Праўда — у Лювэне мы мелі асабліва спрыяльныя абставіны: прыхільна настаўленых уплывовых Бэльгійцаў, добрыя матар'яльныя й жыльлёвыя ўмовы. Быць галодным не даводзілася ніколі. Найбольш-жа важным, на нашу думку, было супольнае жыцьцё — супольная каса й існаваньне Беларускага Студэнцкага Дому. Апошняе мела й адмоўныя бакі — асабліва з гледзішча вывучэньня мовы выкладаньня. Аднак, хоць некаторым у нас мо й не падабалася гэтая «камуна», вынікі супольнага жыцьця гавораць самі за сябе.

Але пакінем успаміны й разважаньні. Пераважная бальшыня нашых «лювэнцаў» удала закончыла студыі. Дзе іх цяпер ні знойдзеш — у Бэльгіі, Нямеччыне, Ангельшчыне, ЗША, Канадзе... Мэдыкі, фармацэўты, інжынеры й дактары розных галінаў, аграномы, эканамістыя, сацыялёгі, журналістыя... Бальшыня працуе ў сваім фаху, а ў эміграцыйных умовах гэта шмат.

А Лювэн — «беларускі» Лювэн — пусьцее. Пусьцее з кажным годам. Беларускі Студэнцкі Дом — «Белы Дом», як яго завуць бэльгійскія студэнты — існуе й далей. Але ў ім — на самым верхнім паверсе — жыве цяпер толькі малая групка нашых «апошніх магіканаў». На іншых паверхах чуваць флямандзкая або француская мова: гэтыя паверхі, калісьці перапоўненыя беларускімі студэнтамі, наняла адна з унівэрсытэцкіх установаў.

Чаму няма новага прыплыву нашых студэнтаў у Лювэн? Няма больш стыпэндыяў? Справа ня ў іх. Калі я папытаўся а. Робэрта адносна матар'яльных магчымасьцяў, ён мне адказаў проста: «Былі-б студэнты — знайшліся-б і стыпэндыі». Яму цяжка не паверыць: хай прыгадаюць тыя абсальвэнты, што прыехалі ў Лювэн, ня маючы яшчэ стыпэндыяў — ці ня скончылі яны студыяў?

Уся справа ў тым — і на эміграцыі гэта нармальна — што ў Эўропе вычарпаліся кандыдаты з адпаведнай падрыхтоўкай. Такія кандыдаты ўжо закончылі або канчаюць студыі калі ня ў Лювэне, дык у іншых унівэрсытэтах Эўропы.

Як ведаем, у ЗША, дзе апынулася пераважная бальшыня нашай сьведамай і палітычна выробленай эміграцыі, студыюе або ўжо закончыла студыі пераважная колькасьць нашае моладзі. Цяжка нам тут у Эўропе мець поўны вобраз таго, які ўклад робіць гэтая моладзь у грамадзкае й палітычнае жыцьцё нашай эміграцыі. Але гэта іншая тэма, на якой варта было-б таксама раз спыніцца.

Гэтым разам нас цікавіць іншае пытаньне: ці ўсе з тых у Амэрыцы, хто мае ці хутка будзе мець адпаведную падрыхтоўку да ўнівэрсытэту, здолее ў ЗША атрымаць вышэйшую асьвету? А ведама-ж, што шмат з тых, хто выяжджаў з Эўропы дзецьмі, ужо маюць за сабой сярэднюю школу. Ці яны маюць намер працягваць навуку? А калі не, дык чаму?

Ня будзем гаварыць аб тых, што ня хочуць ці няздольныя вучыцца далей. Але як з рэштай? Унівэрсытэт у ЗША каштуе дорага, і ня ўсе могуць атрымаць стыпэндыі. Вось тыя або іхныя бацькі мусілі-б падумаць аб магчымасьцях, якія існуюць у Лювэне. Зьвяртаемся ў гэтым выпадку да нацыянальна сьведамага элемэнту: ці ня грэх перад Бацькаўшчынай і перад сабой, маючы адпаведную падрыхтоўку, не працягваць навукі, калі на гэта ёсьць магчымасьці? А мо палохае вас Эўропа? Ці адцягваюць вас пэрспэктывы добра платнай працы, хоць і бяз вышэйшай асьветы? Хай вам будзе прыкладам адзін з вашых сяброў, які на свой кошт прыехаў з Аўстраліі, пакінуўшы там сваю сям'ю, і хутка будзе ўжо кваліфікаваным эканамістым. У Лювэне ёсьць цэлая група ўкраінскіх студэнтаў, што прыехала з Канады.

Беларускі Студэнцкі Дом у Лювэне чакае на новых кандыдатаў. Тыя, што хочуць выкарыстаць усе свае здольнасьці дзеля служэньня Бацькаўшчыне — адгукнецеся!

**Ул. Нямановіч**

## А дзе клопаты аб чалавеку?

**(Працяг з 2-ое бачыны)**

рыць ужо сам за сябе. Але заглянем далей. Даведваемся зь перадавіцы, што ў забавязаньнях «шырока адлюстраваныя ўказаньні Першага сакратара ЦК КПСС тав. Хрушчова, зробленыя ім на рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі...» Камэнтараў хіба ня трэба. Даведваемся таксама, што трэба як найхутчэй дагнаць Амэрыку, што валавы збор збожжа ў рэспубліцы узрос у параўнаньні зь 56 годам на 20,8 працэнта.

Аднаго толькі не даведваемся: на колькі працэнтаў узрасла аплата за працадзень? На колькі працэнтаў узрос агульны жыцьцёвы узровень насельніцтва Беларусі ў параўнаньні зь 56 годам? Чаму ў гэтым выпадку нельга знайсьці нічога, акрамя агульных фразаў аб «клопатах аб чалавеку»?

Адказ ясны. Зрэшты, падумайце самі...

**У. С.**

## Булганін аб 1958: „Будзе гэта год перамоваў...“




**— Хутчэй, хутчэй! Цягнік з нашымі прыяцелямі, коэгзыстэнцыялістымі набліжаецца...**

## *Памажыце зрабіць карысную справу!*

**ДА СПРАВЫ ВЫДАНЬНЯ ТВОРАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына», апрача тыднёвіка пад тым-жа назовам і месячнага ілюстраванага часапісу для дзяцей «Каласкі», пачынаючы ад 1952 году выдае й кнігі лепшых твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. За гэты час выдана 13 кніжак твораў беларускае літаратуры, а сярод іх найвялікшых нашых паэтаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.**

**У мінулым годзе ў сувязі з 40-годзьдзем сьмерці Максіма Багдановіча мы пачалі на бачынах «Бацькаўшчыны» перадрукоўваць паэтычныя творы гэтага паэты, каб іх выдаць пазьней асобнай кніжкай.**

**Варта адцеміць, што творчасьць Багдановіча найменш ведамая й найменш даступная беларускаму й заходняму чытачу, бо на Захадзе ягоныя творы зусім ня перадрукоўваліся. А між тым, роля й значаньне Багдановіча ў нашай літаратуры ня меншае за ролю й значаньне Купалы й Коласа. У той час, калі Купала й Колас галоўным чынам парушалі ідэйныя праблемы нашага нацыянальнага адраджэньня, Багдановіч, як нязвычайна ўталентаваны майстра беларускага паэтычнага слова й паэта высокай літаратурнай культуры, стварыў артыстычныя асновы нашае адраджэнскае літаратуры й падняў яе на эўрапэйскую вышыню. Такім чынам Багдановіч, як адзін ізь вялікай тройкі беларускай адраджэнскай літаратуры, удала дапаўняў двух апошніх — Купалу й Коласа.**

**Нажаль, цяпер матар'яльнае палажэньне «Бацькаўшчыны» на столькі пагоршылася ў сувязі з ростам друкарскіх і іншых коштаў, што Выдавецтва дасюлешнім спосабам ня зможа выдаць гэтае цэннае кнігі й ейны набор, які застаецца пасьля надрукаваньня ў «Бацькаўшчыне» твораў Багдановіча, прыдзецца раськівуць. Гэта было-б недаравальнай шкодай, бо гатовы набор — гэта ўжо палавіна коштаў усяго выданьня.**

**Каб усё-ж такі ажыцьцявіць гэтае патрэбнае й цэннае выданьне, Выдавецтва ня мае іншага выхаду, як зьвярнуцца да шырокіх колаў нашага эміграцыйнага грамадзтва з гарачым заклікам і шчырай просьбай памагчы нам у гэтай справе. Мы ня просім ані беззваротных ахвяраў, ані ніякіх формаў дапамогі, а просім толькі зусім простай, натуральнай і бясстратнай рэчы: каб ужо цяпер кажны той, для каго беларуская нацыянальная справа ня ёсьць абыякавай, купіў наперад прынамся адзін эгзэмпляр заплянаванага выданьня.**

**Кніга мае быць прыгожа афармленая, у каляровай вокладцы, на добрай паперы й з партрэтам аўтара. Яна выдаецца пад рэдактарствам ведамых беларускіх літаратураведаў праф. Антона Адамовіча й др. Ст. Станкевіча; яны-ж прыгатавалі і ўводныя артыкулы для кнігі аб жыцьці й творчасьці Максіма Багдановіча. Кніга будзе абыймаць каля 200 бачынаў друку.**

**Кошты выданьня, апрача друкарскага набору, будуць выносіць каля 1 000 амэр. даляраў. Цана аднаго эгзэмпляра будзе выносіць 3 амэр. даляры, а ў іншых краінах іхную раўнавартасьць. Для краінаў зь ніжэйшым узроўнем жыцьця цана будзе зьніжаная ў тэй самай працэнтнай прапорцыі, як і для іншых кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчына». Дык каб здабыць патрэбныя 1 000 даляраў на выданьне гэтае кнігі, дастаткова калі будзе закуплена наперад прыблізна 350 яе эгзэмпляраў.**

**Кнігу плянуецца выпусьціць у канцы чэрвеня 1958 году. Але да друкаваньня кнігі трэба прыступіць найпазьней у пачатку травеня. Таму тэрмін закупу кнігі згары ўстанаўліваецца да 15 красавіка.**

**Мы зьвяртаемся з гарачай просьбай да ўсіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і паасобных грамадзян безадкладна прыступіць да збору грошай на набыцьцё кнігі й перасылаць іх на адрыс Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, або на адрыс нашых Прадстаўніцтваў у розных краінах.**

**Пры гэтым Выдавецтва «Бацькаўшчына» гарантуе, што ў выпадку, калі-б аказалася недастатковая колькасьць пакупнікоў кнігі й яна дзеля гэтага ня выйшла, дык заплачаныя за яе грошы будуць зьвернутыя назад собсьнікам. Аднак, нам ня хочацца верыць, каб нашая эміграцыйная грамадзкасьць да гэтага дапусьціла.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

---

З болю сэрца разрываецца.
Гэй, было-б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Страсянуў Максім кудрамі — годзе плакаць,
[годзе.
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:
«Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка ды краснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі кветы расьцьвітаюць,
Ад яго-ж яны й пасыхаюць.
А ты, сонца, сьвеціш,
Залатое, сьвятое,
І ня ведаеш тое».
Ціха ўсё — толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць, —
З болю сэрца разрываецца.
Гэй, было-б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Страсянуў Максім кудрамі — годзе плакаць,
[годзе.
Цяжка-важка, сумнюсенька ён заводзе:
«Мае дзетачкі, мае дробныя,
Вы наплачацеся, нагалосіцеся,
Бо ня стане ў вас татачкі!
Хто вас будзе гадаваці, адзяваці
І ад цёмнай ночы укрываці?
Станеце вы, дзеткі, жабракамі,
Пойдзеце барамі-лугамі,
Ды гасьцінцамі-дарогамі.
А дарогі тыя бясконца ляжаць, —
Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець».
Ціха ўсё — толькі струны зьвіняць,
Толькі песьня разьліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць, —
З болю сэрца разрываецца.

А як сьмерцяй Максіма скаралі, —
Рукі белыя да брамы прыбівалі,
Рукі белыя да брамы мястовай,
Галаву — да вежы вартовай,
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры каб сушылі,
Каб крукі прылятылі — вочы дзяўбалі,
А ўсе людзі пазіралі — ды не забывалі.

* * *

Ой, скацілася зорачка, скацілася,
Ты пайшла ад нас — і не прасьцілася,
Не прасьцілася, не разьвіталася,
І куды пайшла — не сказалася.
Я-ж цябе лячыла, даглядала,
На сьнег нагаворны клала,
Праз хамут прадзявала,
Ліпавым цьветам паіла,
Чаму-ж ты мне гэтак зрабіла?..

* * *

Ўстужку сінюю ўплятаю
У цябе, мая каса!
У таго, каго кахаю,
Сіні колер пояса.
Можа мілы здагадаецца,
Для чаго яна ўплятаецца,
Што ён сэрцу падабаецца.

Ўстужку сінюю ўплятаю,
Як у мілага пояс.
Мо аб тым, што я кахаю,
Зразумее мілы ўраз.

Заплаяла-б я ўстужку сінюю,
Як у мілага пояс,
Ды баюся, што паведаюць
Людзі розныя аб нас.
Таварышкі здагадаюцца,
Для каго яна ўплятаецца.

* * *

Сярод вуліцы у нас карагод,
Ды ня йду я ў таночку гуляць,
Як той мак на градзе, красавац,
Праз красу сваю таварышак зляваць.
Зрадзіць тварык белы бедную мяне:
Толькі міленькае імя назавуць —
Белы тварык разгараецца,
А дзяўчаты усьміхаюцца.

* * *

Ой лясы-бары ды лугі-разлогі!
Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі.
Калі хлопца я шчыра кахала, —
Да яго сьцяжынку пратаптала.
Йшла сьцяжынка — дайшла да расстаньня:
Тут і скончылася нашае каханьне.
Я вазьму — ізноў па ёй пахаджу.
Я ізноў на сьцяжынку пагляджу.
А на ёй ужо трава-мурава;
Ўсьцяж крушыньнік разрастаецца,
Над дарогай гальлём навісаецца:
Ні праходу, ні праезду няма.
Спад крушыньніку крынічка цячэ,
І гнязьдзечка зыбаецца ў ім.
А таму і зыбаецца,
Што там птушка-пяюшка заліваецца:
«Ты ня будзеш, крынічанька,
За разводзьдзе сваё ўвясну паўней;
Пакахаеш, дзяўчыначка,
Ды ня так, як кахала ты даўней!»

**(Далей будзе)**

